# СА СВЯТАМ ВАС, НАСТАЎНІКІ!


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 47 (404) | ГОД VIII | 24 ЛІСТАПАДА 1963 г. | ЦАНА 60 ГР




ЭМІЛІЯ КУНАВІЧ — АЎТАР «НЕНАСЫТНЫХ СЭРЦАЎ», НОВАЙ АПОВЕСЦІ АБ ПОЛЬСКІХ НАСТАЎНІКАХ У ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЙ ВЁСЦЫ 20-ТЫХ ГАДОЎ. АРТЫКУЛ «У СЛУЖБЕ ГРАМАДСТВУ І ЛІТАРАТУРЫ» — СТАР. 5.

## ДЗЯКУЙ ТАБЕ, НАСТАЎНІК!

**Хіба няма ў нас такога чалавека, які б не захаваў у сваёй памяці вобраз настаўніка, строгага і добрага, патрабавальнага і чулага. вобраз таго, хто не толькі вучыў чытаць і пісаць, але і адкрываў велізарны свет, казачны, цудоўны. І вучыў не толькі пасіўна любавацца хараством гэтага свету, яго незлічонымі багаццямі, але і заклікаў памнажыць іх, быць адкрывальнікам новага, нязведанага. Гэта ён, настаўнік, будзіў у нас любоў да нашай краіны, адкрываў у чалавеку добрае, паднімаў яго, шырэй раздзвігаў гарызонты светапогляду.**

**Наша краіна паспяхова будуе сацыялізм. І нашая школа пакладае шмат намаганняў у выхаванні новага чалавека, чалавека эпохі сацыялізма, чалавека з высокімі маральнымі якасцямі, сапраўднага мужнага байца за прыгожае і добрае на зямлі. Менавіта ў юнацкія гады і перш за ўсё ў школе адбываецца духоўнае і фізічнае станаўленне чалавека, фармаванне яго характара. Малады арганізм пластычны і гібкі, ён лёгка паддаецца вонкавым уздзеянням, лёгка змяняецца пад уплывам акружаючых умоў.**

**Зрабіць усё для таго, каб школьнік, а затым малады чалавек, адчуваў здаровыя і высакародныя ўплывы дарослых, каб ён правільна і ўсебакова развіваўся — вось задача, якая стаіць перад нашымі школамі, перад кожнай сям'ёй, перад усёй нашай грамадскасцю.**

**У гэтыя дні адбываюцца ўсюды ўрачыстыя вечарыны і спатканні з настаўнікамі. І ўсюды гучаць словы: дзякуй табе наш дарагі настаўнік! Дзякуй за тваё сталае гарэнне, за нястомную працу і пошукі, за тваю самаадданую і самаахвярную працу. І мы са свайго боку ад усёй душы жадаем табе, дарагі настаўнік, вялікага шчасця і добрага здароўя.**

## ЖЫЦЦЁ — ПОДЗВІГ

Да гэтай даты рыхтаваліся людзі, рыхтаваліся мясцовыя арганізацыі, рыхтавалася ўся вёска Гаркавічы. Усёй падрыхтоўцы яшчэ большага значэння прыдавалася таму, што амаль разам з кастрычніцкім святам будзе адзначацца памяць аб вялікім змагару за справядлівасць, за лепшае жыццё Паўле Валошыне, ураджэнцу Гаркавіч. Старэйшыя людзі добра памятаюць яго. Добра знаді яго. Тут ён разам з усімі аднавяскоўцамі жыў і вучыўся, тут ён набіраў мужнасці, каб пасля сваёй вялікасцю выяўляць санацыйную палітыку.

— А мы ўжо не думалі, што Павел Валошын уваскрэсне, што ён жыве яшчэ ў сэрцах многіх людзей, у тым ліку і павятовых улад, — гаварылі гаркавічане, з нецярплівасцю чакаючы 10 лістапада. Многа было гутарак, многа ўспамінаў, калі жыхары Гаркавіч у гонар гэтай даты, у гонар свайго аднавяскоўца прыступілі да рамонту вуліцы, да ўпарадкавання платоў, рамонту святліцы. 10 лістапада вельмі прыгожа стала ў Гаркавічах. На многіх вясковых хатах і панадворках чырвоныя і бела-чырвоныя сцягі. Вуліца высыпана жоўтым пяском. Людзі, усе па-святочнаму апранутыя, накіроўваліся да той хаты, у якой жыў Павел Валошын, у якой яшчэ і зараз жыве яго старэйшы брат Аляксей. Да 11-ай гадзіны сабралася шмат людзей. Прыбылі прадстаўнікі павятовых улад у Саколцы, прыбылі прадстаўнікі Беларускага таварыства, а таксама старыя дзеячы «Грамады» і КПЗБ. Старшыня павятовага аддзела БГКТ у Саколцы Аляксандр Рафаловіч кароткімі словамі адкрывае ўрачыстасць. Аб жыцці і рэвалюцыйнай дзейнасці Паўла Валошына гаворыць сакратар Павятовага Камітэта ПАРП Іван Дзянісюк. Пасля яго аб традыцыях супольнай барацьбы беларусаў і палякаў за лепшую будучыню нашай краіны гаворыць прадстаўнік Беларускага таварыства. Пасля пад гукі барабанаў адсланяецца мемуарная дошка на доме, у якім жыў Павел Валошын.

Калі закончылася афіцыйная ўрачыстасць людзі накіравалі-

(Працяг на стар. 3)

Міхась ПАРАХНЕВІЧ

### ЗЯМЛЯ БАЦЬКОЎ

У клетку складзеныя дровы,
Гарох надзеў вянок на плот,
І пах антонавак мядовы,
І ў поле сцежка праз гарод.

Іду да ціхае крыніцы,
Мінаю росныя кусты.
За многа год не мог забыцца
Пра бераг гліністы, круты.

А там, дзе сіні лес яловы,
Дзе ў неба высяцца дубы.
З нажом ды кошыкам лазовым
Хадзіў я ранкам па грыбы.

Слязою першай і уцехай,
І радасцю было ўсё тут.
З-за мора вернешся — заехаць
Не мінеш ў бацькоўскі кут.

Ідзеш, усё прыпамінаеш —
І першы крок, і маладосць...
Як добра жыць, калі такая
Ў цябе зямля на свеце ёсць!



## У літоўцаў

30 кіламетраў на поўнач ад Сэйн, амаль пры самай граніцы з Савецкай Літвой, паміж маляўнічых узгоркаў рассыпаліся вёскі Відугерскай грамадскай рады. Слова «вёска» тут вельмі ўмоўнае, таму што сярод літоўскага насельніцтва зусім не знойдзеш вёскі ў такім сэнсе як, напрыклад, у Бельскім, Гайнаўскім ці Сакольскім паветах. Тут усё хутары, раскінутыя адзін ад другога ў адлегласці 1, а часам і 2 кіламетраў. Калісьці былі тут вёскі, але ўжо нават найстарэйшыя жыхары аколіцы не памятаюць іх. Падзел на хутары адбыўся яшчэ далёка за цара. Несумненна гэта пакінула свой адпячатак у псіхіцы нават сучаснага пакалення. Літоўцы — людзі замкнутыя і вельмі неахвотна ўступаюць у гутарку з незнаёмым. Але калі пераканаюцца, што ты прыехаў да іх з добрым намерам, стаюцца надзвычай гаворкімі і гасціннымі. Аб гэтым я пераканаўся, калі пазнаёміўся з солтысам вёскі Навіннікі — Янасам Сэндай. Ён доўга і падазрона разглядаў маю службовую легітымацыю, а ўпэўніўшыся хто я, стаўся надзвычай размоўны і ветлівы. Ён запрасіў мяне на начлег, і нягледзячы на познюю пару, разбудзіў жонку і пачаставаў мяне такой вячэрай, якую сустрэнеш у нас толькі пры святочным стале.

А што ядуць літоўцы? Найбольш папулярнай патравай у іх з'яўляецца капуста. Яна абавязкова будзе і на штодзень і ў святы. Ядуць капусту сырую, вараную, тушаную, смажаную, запяканую з гарохам і бульбай, але перш за ўсё са свінінай. З мяса літоўцы аддаюць перавагу свініне, ну і саланінцы, якая аднолькава добра ім смакуе як летам, так і зімою. Аднак укаранаваннем усяго з'яўляецца тут скіландзіс. Ён займае найбольш пачэснае месца і пры вясельным

(Працяг на стар. 4)



НАСТАЎНІКІ ПРЫЕХАЛІ
Фота: НАЙЛЮЧУК

# АВС ВЕНГРЫІ

Без перабольшання магу сказаць, што Польшча ў Венгрыі лічыцца зараз найбольш папулярнай краінай, а палякі сярод венграў — гэта госці, якіх яны надзвычай сардэчна вітаюць. Слова «лендржэль» — паляк заўсёды пратаравала мне дарогу да сардэчных гутарак, у час якіх мы захапляліся смакам высакаякаснага токаю.

Дзе ж крыніца гэтай венгерскай сардэчнасці да нашай краіны? Выплывае яна з падобных лёсаў абедзвюх краін, якія шмат спазналі няволі, шмат змагаліся ў нацыянальна - вызваленчай барацьбе да поўнай перамогі сацыялістычнага ладу.

Асаблівая сардэчнасць венграў да нашай краіны праяўляецца ў апошні тыдзень у сувязі з прыездам у Будапешт польскай партыйна-ўрадавай дэлегацыі. Яшчэ многа дзён перад гэтым візітам венгерскія газеты былі перапоўнены артыкуламі аб Польшчы. Я знаходзіў у іх інфармацыі аб нашым Узбярэжжы (мора — гэта заўсёды цікавячая венграў тэма), аб развіцці Варшавы і хіба найбольш аб Сілезіі. З гэтага апошняга няма зрэшты чаго здзіўляцца. У Катавіцах дзейнічае ўжо некалькі год польска - венгерскае прадпрыемства «Гальдэкс», якое займаецца рацыянальным выкарыстаннем вугальных адвалаў.

З вялікім здзіўленнем даведваемся аб велізарнай колькасці перакладаў польскай мастацкай літаратуры.

Няхай цяперашні візіт нашай партыйна - ўрадавай дэлегацыі дасць аказію прынамсі павярхоўна пазнаёміцца з выглядам сённяшняй Венгрыі.

Пачнем ад статыстыкі: Венгрыя займае плошчу каля 100 тыс. кв. км. і згодна з апошнім перапісам мае звыш 10 мільёнаў жыхароў.

Яна належыць да краін, якія шпаркімі тэмпамі развіваюць сваю прамысловасць. Аб гэтым сведчыць м. ін. факт, што зараз толькі 38% насельніцтва займаецца сельскай гаспадаркай. У 1962 г. прамысловая вытворчасць узрасла ў 4,5 раза. Дзякуючы вялікім запасам баксітаў, Венгрыя ўжо даўно належыць да перадавых вытворцаў алюмінія ў Еўропе. Зараз вытворчасць гэтага каштоўнага металу перавышае тут ужо 52 тыс. тон у год, што складае 1,5% сусветнай прадукцыі. У параўнанні з 1949 г. здабыццё мінеральнай сыравіны ў Венгрыі падвоілася (дзякуючы гэтаму, напр., прадукцыя сталі перакрочыла 2 мільёны тон), вытворчасць машын узрасла ў пяць разоў, а прэцызійных вырабаў, у якіх Венгрыя спецыялізуецца ў рамках Рады ўзаемнай гаспадарчай дапамогі, больш як у два разы. Зараз, пасля выяўлення некалькіх уласных крыніц нафты, на поўначы краіны, а перш за ўсё дзякуючы завяршэнню будовы нафтаправода, які дае Будапешту савецкую нафту, гэтая краіна, так як і Польшча, прыступае да інтэнсіўнага развіцця нафтавай прамысловасці.

Поўнасцю калектывізаваная сельская гаспадарка таксама ўваходзіць у перыяд паспяховага развіцця. Зараз усе кааператывы закончылі ўжо сеў азімых, што пры доўгай і прыгожай венгерскай восені гаворыць аб рэкордным тэмпе палявых работ. Характэрнай з'явай у сельскай гаспадарцы з'яўляецца паварот да пабольшанага арэалу збожжавых культур, якія занялі 1,7 мільёнаў га. Робяцца намаганні, каб зліквідаваць увоз збожжа, якога Венгрыя штогод імпартуе 900 тыс. тон.

Пераглядаючы венгерскія газеты, я знайшоў абшырнае інтэрв'ю з польскім віцэ - прэм'ерам Пётрам Ярашэвічам, прысвечанае польска - венгерскім гаспадарчым адносінам. Як вынікае з інтэрв'ю, Венгрыя займае чацвёртае месца ў нашым тавараабмене, пасля СССР, Чэхаславакіі і ГДР. У 1958—1962 г.г. тавараабмен паміж абедзвюма нашымі краінамі узрос на 87%. Наш віцэ-прэм'ер зазначыў, што існуюць магчымасці развіцця супольных польска - венгерскіх прадпрыемстваў і кааперацыі ў рамках Рады ўзаемнай гаспадарчай дапамогі, у выніку чаго гэты абмен да 1980 г. павінен павялічыцца ў шэсць разоў.

Хай журналісту будзе можна выказаць надзею, што ўслед за гэтым развіццём гаспадарчых суадносін пойдзе ўзрост нашага зацікаўлення іншымі галінамі жыцця Венгрыі.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# МІСТЭР „ЦЭКОП"

Апошні транспарт польскіх машын для новай алейні ў турэцкай мясцовасці Орду над Чорным морам, якая будуецца паводле нашых праектаў, дайшоў да месца прызначэння. Такім чынам заканчваецца будова чарговага 60 прамысловага аб'екта, якія будуюцца па заказу замежных контрагентаў праз «ЦЭКОП» — адну з найбольш вядомых у свеце польскіх цэнтраляў замежнага гандлю. «ЦЭКОП» пабудаваў, або яшчэ будуе, прамысловыя аб'екты ў 36 краінах, у тым ліку ў 3 азіяцкіх, 14 еўрапейскіх, 6 афрыканскіх і 3 краінах Лацінскай Амерыкі. Яшчэ год назад можна было назваць толькі 30 краін. Да ліку пастаянных і ўжо традыцыйных кліентаў містэра «ЦЭКОП-а» трэба залічыць у першую чаргу Савецкі Саюз, Чэхаславакію, Іран, В'етнам, Бразілію, Кубу, Швецыю, Югаславію, ГДР, ААР, Індыю і Грэцыю.

Не менш цікавы спісак камплектных прамысловых аб'ектаў, якія «ЦЭКОП» прадаў заграніцай. Гэты спісак пачынаецца з 12 бетонных фабрык, 17 халадзільнікаў, 7 велізарных паласкачак для вугальных шахт, 3 самастойныя катлоўні, 2 цэментныя фабрыкі, 2 ліцейныя заводы, 2 рэктыфікацыі цынку. «ЦЭКОП» будаваў таксама заграніцай глыбінныя вугальныя шахты, алейні і г.д., не гаворачы ўжо аб цукровых фабрыках, якія зрабіліся ўжо спецыяльнасцю «ЦЭКОПа». 24 цукровыя фабрыкі пабудаваны або будуюцца ў розных краінах свету.

У апошні час «ЦЭКОП» узяўся за дастаўку гатовых аб'ектаў «пад ключ». Гэта значыць, што «ЦЭКОП» выконвае ўсю працу, пачынаючы ад геалагічнай разведкі, праз праектаванне, дастаўку і мантаж абсталявання, усе працы, звязаныя з будовай і, нарэшце, уввядзенне ў строй новай фабрыкі. Пры выкананні такіх заказаў «ЦЭКОП» стараецца закладаць кааперацыю з іншымі замежнымі фірмамі, асабліва з мясцовымі. Гэта аблягчае знайсці рынак і часта абніжае кошты будовы.

Асновай поспехаў містэра «ЦЭКОПа» з'яўляецца вельмі добра арганізаванае супрацоўніцтва са ўсёй прамысловасцю ў краіне. «ЦЭКОП» супрацоўнічае з 28 галоўнымі дастаўшчыкамі машын і абсталявання, апрача гэтага мае свае навуковыя і тэхнічныя кадры. Існаванне гэтых кадраў дае магчымасць выконваць шматбаковыя паслугі і арыентавацца ў тэхнічным узроўні і патрабаваннях заграні чных контрагентаў.

**АР.**

# Хроніка

■ 12 і 13 лістапада адбылася VI сесія Сейма ПНР. На сесіі, між іншым, Сейм адклікаў з пасады міністра камунікацыі Юзэфа Папеляса і на яго месца выбраў інжынера камунікацыі Пятра Лявінскага.

■ 15 лістапада ў Беластоку абрадаваў VII Ваяводскі з'езд ЗСЛь. На з'ездзе прысутнічалі старшыня Галоўнага Камітэта ЗСЛь, маршал Сейма — Чэслаў Вырцэх і намеснік старшыні ГК ЗСЛь, намеснік старшыні Дзяржаўнай Рады — Балеслаў Падэдворны.

■ 17 лістапада ў Беластоку адбыўся пленум Галоўнага Праўлення Беларуска-га грамадска - культурнага таварыства. (Справаздачу з пленума чытайце ў наступным нумары «Нівы»).

■ 13 лістапада нававыбраны Парламент Германскай Дэмакратычнай рэспублікі выбраў паўторна Вальтэра Ульбрыхта старшынёй Рады Міністраў ГДР.

■ 12 лістапада на VII Міжнародным фестывалі кінафільмаў ў Сан-Францыска вялікую ўзнагароду «Залатыя вароты» атрымаў польскі фільм «Як быць каханай».

■ 12 лістапада міністр рэвалюцыйных узброеных сіл Кубы падаў да ведама, што на Кубе будзе ўведзены абавязак вайсковай службы для мужчын.

■ 15 лістапада ў Беластоку выступіў Маскоўскі тэатр сатыры.

■ 15 лістапада прабывала на Беласточчыне дэлегацыя энергетыкаў Беларусі.

■ 10 лістапада ў вёсцы Ячна, Дуброўскага павета, аддадзены ў карыстанне новы Дом культуры. З канцэртам выступіла эстрада «Лявоніха».

■ 15 лістапада, пасля пабыўкі ў СССР, прыехаў з візітам у Польшчу славуты амерыканскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі — Джон Стэйнбек.

■ 13 лістапада сельскагаспадарчыя гурткі на Бельшчыне дасягнулі ліку 100 трактараў. Соты трактар закупіў сельгасгурток у Лубіне Касцельным.

# спорт

## Моладзь далёка ззаду

Беластоцкія легкаатлеты закончылі сезон уданым акцэнтам. Маем на думцы заваяванне пераводу ў II лігу дружыны Ягелёніі. Таксама добрае месца занялі легкаатлеты ЛьЗС на першынства Польшчы ў сваім аб'яднанні. Калі глянуць з пункту гледжання гэтых дасягненняў, дык наракаць няма чаго, і можам іх залічыць у плюс беластоцкай лёгкай атлетыкі.

На жаль, куды горш выглядае справа ў катэгорыі юніёраў. Беластачане фігуруюць у краіне ў спіску найлепшых толькі ў чатырох відах. Можна нават сказаць, што сярод юніёраў у маштабе краіны мы не лічымся. Гэта пацвердзіла першынства Польшчы, у якім толькі два з нашых прадстаўнікоў адыгралі больш значную ролю.

Чаму гэта так? Галоўным чынам таму, што маем вельмі мала легкаатлетычных секцый у клубах, мала легкаатлетаў на спартыўных пляцоўках школ, хоць гэтая дысцыпліна спорту падабаецца моладзі і мае свае традыцыі. Юніёрамі мала цікавяцца дзеячы і трэнеры спартыўных клубаў.

Цяпер нашу акругу прадстаўляе Ягелёнія. Але адна Ягелёнія, нават з поспехамі ў II лізе, не можа задаволіць ні Беластоцкі акруговы саюз лёгкай атлетыкі, ані амбіцыі нашай акругі. Лёгкая атлетыка шырэйшым фронтам павінна ўвайсці ў Элк, Сувалкі, Гайнаўку, Бельск - Падляшскі, Ломжу, Замбраў і Саколку. Да гэтага часу гэтыя гарады абмяжоўваюцца толькі футболам. Нягледзячы на гэта, як прыклад, у Ломжы, Замброве і Саколцы асенні круг і ў гэтай галіне спорту не прынёс поспехаў. Праўда, у акружных табліцах відаць змены на лепшае, аднак і далей мы застаемся далёка ззаду ад перадавых.

А мы маглі б мець лепшыя вынікі, маглі б мець большае зацікаўленне лёгкай атлетыкай у школах. Няма перашкод і да таго, каб лёгкая атлетыка ўвайшла на вёску.

**Л. Тарасевіч**



**Не заўсёды толькі другіх вучаць. Часта прыходзіцца і самому вучыцца. Сістэматычна папаўняюць свае веды ўсе настаўнікі на раённых канферэнцыях.**

**НА ЗДЫМКУ. Настаўнікі Гайнаўшчыны на раённай канферэнцыі ў Барысаўцы.**

**Фота: Паўлючук**




Самалёт узлятаў у абсалютнай цемры душнай летняй ночы. І толькі калі ён, крута набіраючы вышыню, прабіў два слаі воблакаў, зверху засвяціліся рэдкія зоркі. Рудзін глядзеў на іх, прыціснуўшыся тварам да шкла. Цьмяная лямпачка над дзвярыма ў кабіну лётчыкаў ледзь асвятляла ўнутранасць самалёта. Невыразнымі белымі плямамі віднеліся твары толькі тых, хто быў каля дзвярэй. Краўцоў сядзеў, прываліўшыся плячыма да парашута, і, закінуўшы ўверх галаву, быццам спаў. Маркаў у гэты час быў у кабіне лётчыкаў. Ён глядзеў на карту, разасланую на каленях штурмана. Зялёную курчавіну Ліговінскіх балот ён так часта разглядаў на розных картах, што яна заўсёды стаяла ў яго перад вачыма. Па сілуэту балота было падобнае на Апенінскі паўвостраў. Каля гэтага балота яны і саскочаць. Там іх павінны чакаць узначальваемыя старшынёй Будніцкім байцы з вайсковай часці НКВД, скінутыя некалькі дзён назад...

— Набліжаемся да фронту! — штурман паказаў наперад і ўніз.

23

Маркаў выпраставаўся і ўбачыў глыбока - глыбока ўнізе чырвоныя ўспышкі.

Прайшла яшчэ гадзіна палёту, і лётчык паказаў Маркаву на карту.

— Парадак! Спераду злева кастры! — крыкнуў лётчык. — Ідзіце рыхтуйцеся, я пайшоў на круг...

Бортмеханік зняў дзверы з завесаў, і ўся аператыўная група выстраілася ў чаргу.

Запалілася і хутка-хутка замігацела сігнальная лямпачка.

— Пайшлі! — крыкнуў Маркаў і махнуў рукой зверху ўніз.

✲

Нарэшце прыйшла доўгачаканая радыёграма з Масквы. Камісар дзяржбяспекі Старкоў паведамляў аб месцы і часе сустрэчы Маркава з сакратаром падпольнага абкома таварышам Аляксеем. Яна павінна адбыцца ў найбліжэйшую суботу, у вёсцы Набережнай, у доме святара.

Маркаў з'явіўся на сустрэчу дакладна ў вызначаны час. Калі ён адкрыў дзверы явачнай кватэры, убачыў у пакоі двух мужчын. У адным з іх Маркаў пазнаў сакратара падпольнага абкома.

— Добры дзень, таварыш Аляксей!

— Нарэшце сустрэліся! — таварыш Аляксей падыйшоў да Маркава. — Вось вы які! Я чамусьці думаў, што вы старэйшы, — ён моцна паціснуў руку Маркава і падвёў яго да стала. — Знаёмцеся, гэта наш чалавек з цікавячага вас горада таварыш Заўгарадні, падпольнае імя — таварыш Павел. З-за яго наша сустрэча і адкладвалася. Выцягнуць яго з горада не так лёгка...

24

Маркаў прывітаўся з Заўгарадні м, і яны селі за стол. Таварыш Аляксей зняў з рукі гадзіннік, і, палажыўшы яго перад сабой, сказаў:

— Давай, Павел, дзесяць мінут, не больш...

— Галоўная сіла ў горадзе — ваенная занальная камендатура на чале з падпалкоўнікам Штраўхам і гестапа на чале з оберштурмбанфюрэрам Клейнерам, — пачаў Заўгарадні. — Справамі горада займаецца гестапа. Яно пачало вербаваць агентаў сярод насельніцтва. Пакуль гэта ў іх не вельмі ладзіцца. Усё ж з дзесятак падлюг знайшлі. Але і сюды мы таксама ўладзілі свайго чалавека, каб ведаць, куды цэліцца Клейнер. Пакуль іх галоўная мэта — вылавіць камуністаў і актыў. Адносна таго мы ўстанавілі амаль цвёрда: установа гэта сапраўды размясцілася ў нашым горадзе. Яны занялі некалькі будынкаў, у тым ліку новую школу. Гэта далёка ад цэнтра. Ахова ўсёй гэтай зоны вельмі моцная, вуліцы перакрыты шлагбаўмамі, на ґародах працягнуты калючы дрот. Так што прасачыцца туды мы не рызыкавалі. Адзінае, што мы высачылі, — у гэтую зону амаль кожную ноч праязджае аўтобус; ён спыняецца каля школы з тыльнага яе боку. Там пустэча.

— На якой падставе вы вырашылі, што гэта менавіта тая ўстанова?

— Ёсць у нас чалавек, інжынер Русакоў. Вось ён якраз па нашым заданні і завербаваўся ў тайныя

25



# НЕ ЗАБУДЗЕМ

**Размова з настаўніцай польскай мовы гайнаўскага беларускага ліцэя Міхалінай Срэдзінскай.**

**— Пра настаўнікаў пісалі мы ўжо не раз. Хоць сорамна, але прызнаюся — ані разу аб настаўніку польскай мовы ў беларускіх школах. Збліжаецца Дзень Настаўніка. Злучым тады прыемнае з карысным. Як вы адчуваеце сябе сярод беларусаў?**

— Добра. Я ўжо паспела пазнаць мову і дзяцей: 8 год у Гайнаўцы і да таго 8 у Міхалове.

**— Не маленькі стаж настаўніцкай працы. Ніколі б не падумала, гледзячы на вас.**

— Калі ўжо аб гэтым мова, дык скажу, што я з новым навучальным годам уступіла ў юбілейны свой год — 20-ты год настаўніцкай працы.

**— Падзяліцеся, калі ласка, сваімі ўвагамі.**

— Ёсць малая спецыфіка ў навучанні польскай мовы ў беларускіх школах. І я гэтую спецыфіку ўлічваю. На маіх уроках выкарыстоўваю знаёмасць вучняў беларускай мовы, навязваю да супрацоўніцтва і сяброўства беларускіх і польскіх пісьменнікаў: Ажэшковай, Кандратовіча, напрыклад. Праз столькі год працы ўжо сарыентавалася, якія памылкі найчасцей вучні робяць, з якога роду цяжкасцямі могуць сустракацца. І стараюся на гэта звяртаць увагу, папярэджваць.

**— Ці ваша школа па польскай мове мае ўзровень школы польскай?**

— Праграма польскай мовы для беларускіх школ крыху завужана. Але я прарабляю ў сябе нармальную праграму, як ва ўсёй краіне. І як кожная іншая школа, мы маем добрыя вучнёўскія працы па польскай мове, выдатныя працы. Так што ўзровень, мабыць выраўноўваецца. Я трактую польскую мову як дарогу да здабывання ведаў і ў такім аспекце падношу яе маім вучням.

**— І яны прымаюць.**

— Прымаюць. Нават з цяперашняга 11 класа дзве вучаніцы вырашылі пайсці на паланістыку. І не падумайце, што я намаўляю якраз на гэты напрамак. Намаўляю кожнага паводле іх зацікаўлення і здольнасцей. Цяпер тэхніка модная. Я і сама без яе не абышлася. Зубрy кодэкс руху на дарогах.

**— Я нядаўна пазнаёмілася з вашай былой вучаніцай у беларускім ліцэі ў Міхалове. У адной з яе беражна перахоўваемых прац па польскай мове прачытала: «Не забуду сардэчнай маёй пані і прыемных урокаў польскай мовы, якія навучылі мяне многаму». Хачу перадаць вам, што дзяўчына фактычна не забыла, хоць мінула 10 год. Прыміце гэта як нашы пажаданні ў Дзень Настаўніка. Каб не забывалі! Каб кожны з вас, настаўнікаў, меў як найбольш тых, што не забываюць!**

Размаўляла **ВЕРА ЛЕЎЧУК**

## З жыцця БГКТ

# КАСТРЫЧНІЦКАЕ СВЯТКАВАННЕ

У памяшканні Галоўнага Праўлення БГКТ у Беластоку заўсёды спаткаешся з моладдзю, заўсёды ёсць тут наведвальнікі. Асабліва многа сабралася людзей 7 лістапада. У вялікай зале заняты былі ўсе месцы. Члены БГКТ сабраліся тут на ўрачыстую акадэмію, прысвечаную 46-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. У зале святочны настрой. На палотнах сцэны вялікія лічбы 1917—1963, а пад імі партрэт В. І. Леніна. Далей вялікі серп і молат і касмічная ракета. За сталом, пакрытым чырвоным палатном, члены Прэзідыума ГП БГКТ, актывісты БГКТ і некалькі ветэранаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. З дакладам аб эпахальным значэнні Кастрычніцкай рэвалюцыі выступае сакратар партыйнай арганізацыі Васіль Баршчэўскі. Пасля афіцыяльнай часткі пачаліся выступленні калектыва песні і танца, які існуе пры ГП БГКТ.

Некалькі дзён перад святам, як Прэзідыум Галоўнага Праўлення БГКТ, так і рэдакцыя «Нівы», паасобным установам і арганізацыям у Мінску і Гродне выслалі тэлеграмы з віншаваннямі і пажаданнямі, а 7 лістапада раніцай прадстаўнікі беларускага таварыства асабіста віншавалі і складалі пажаданні савецкай вайсковай часці ў Беластоку.

З нагоды кастрычніцкага свята тыдзень раней адбылося надзвычай цікавае спатканне моладзі — членаў БГКТ з савецкімі салдатамі. Пасля беспасрэдных сардэчных гутарак за сталом да позна працягвалася танцавальная вечарына.

На здымку: Прэзідыум урачыстай акадэміі ў будынку ГП БГКТ.



# ЖЫЦЦЁ — ПОДЗВІГ

(Працяг са стар. 1)

ся да святліцы, куды прыехала з канцэртам эстрада ГП БГКТ «Лявоніха».

Магчыма, што не ўсе нашыя чытачы, асабліва моладзь, знаюць аб Паўле Валошыне, аб яго рэвалюцыйнай дзейнасці ў гады санацыйнай Польшчы. Таму мы коратка раскажам аб гэтым вялікім патрыёце, камуністу.

Калі хадзіў ён да пачатковай школы, любіў многа чытаць. Гэта любоў да кніжкі пазней стала яшчэ большай. Ён пачаў цікавіцца марксісцкай літаратурай, і менавіта яна дапамагла яму разумець класавую несправядлівасць санацыйнага ўрада, які зусім не лічыўся з існаваннем у краіне многіх нацыянальнасцей. Павел Валошын быў добрым аратарам. Часта выступаў ён на вясковых сходах у абароне сялян, гаварыў аб страшнай іх эксплуатацыі, аб нацыянальным і сацыяльным прыгнёце. Такім чынам заваяваў ён вялікі аўтарытэт сярод працоўнага сялянства. У час выбараў у першы Сейм у Польшчы Павел Валошын кандыдуе на пасла ад малазямельных сялян Беласточчыны. Пачаткова належыць ён да сеймовага беларускага клубу, але ў палове 1925 года 5 беларускіх паслоў, сярод якіх быў і Валошын, утвараюць новую легальную арганізацыю «Беларускую сялянска - рабочую грамаду», якою кіравала Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі. Аб размаху дзейнасці «Грамады», аб яе ўплыве на шырокія масы працоўных сведчыць хаця б тое, што яна на працягу двух год вырасла да 100 тысяч членаў. На чале «Грамады» сталі беларускія паслы ў польскі Сейм Браніслаў Тарашкевіч, Павел Валошын, Шымон Рак-Міхайлоўскі і іншыя.



Павел Валошын у Гайнаўцы з завязанай галавой пасля «масакры ў Старым Беразове».

У рэвалюцыйнай дзейнасці «Грамады» Павел Валошын адыгрываў вялікую ролю. Ён арганізоўваў мітынгі, з'езды «Грамады», а з сеймовай трыбуны выяўляў рэакцыйную палітыку ўрада. Мітынгі «Грамады» атакавала паліцыя і яны неаднойчы канчаліся драматычна. Але часта рашучая пастава сялян не дапускала, каб паліцыя разагнала мітынг. Гэтак было ў 1926 годзе ў Крынках, Луніне і Алекшычах, дзе выступаў Павел Валошын з палымянымі рэвалюцыйнымі прамовамі.

(Працяг на стар. 5)

---

агенты гестапа. І, здаецца, перастараўся. Прыкладна тыдзень таму ён пайшоў на чарговую яўку з гестапаўцам, а яго адтуль павезлі ў тую забароненую зону. І там яго гадзін дзве ўгаварвалі пайсці працаваць у нямецкую разведку. Вытлумачылі, што яго закінуць у савецкі тыл, там ён павінен уладзіцца на ваенны завод і арганізаваць дыверсію, потым вярнуцца, атрымаць вялікія грошы і жыць прыпяваючы ў Германіі. Ну, ён, зразумела, адмовіўся. Сказаў, што такая справа яму не па сілах. Потым яны яго яшчэ цэлую гадзіну агітавалі. Урэшце інжынер сказаў, што падумае.

— Ён павінен згадзіцца... — сказаў Маркаў. — А калі яго закінуць, хай адразу з'явіцца ў органы бяспекі. Іх будуць чакаць.

— Як жа так? Ён жа для нас вельмі патрэбны чалавек! Праўда, таварыш Аляксей? — захвалявася Заўгарадні.

— Зразумейце, ён зробіць для нас вялікую справу, — горача загаварыў Маркаў. — Ён першы пройдзе праз апарат «Сатурн», і мы атрымаем ад яго важныя даныя.

*

Некалькі вельмі важных шыфровак:

**Ад падпольнага абкома — Маркаву.**

«З Русаковым у парадку. Праходзіць абучэнне ў вядомай вам установе. Арыенціровачны яго выезд — канец кастрычніка. Чалавек, з якім ён там мае

26

справу, — былы афіцэр Савецкай Арміі Андросаў Міхаіл Мікалаевіч. Нашы сустрэчы з Русаковым крайне цяжкія. Павел бачыўся з ім толькі адзін раз і наўрад ці ўбачыцца яшчэ. Сачэнне за ўстановай прыцягваецца. Панцялееў гандлюе нармальна. Прывітанне. Аляксей».

**Ад Маркава — камісару дзяржбяспекі Старкову.**

«Русакоў арыенціровачна прыбудзе ў канцы кастрычніка. Тэрмінова трэба высвятліць фігуру Андросава Міхаіла Мікалаевіча, які працуе ў цікавячым нас месцы, відавочна, звязаны з вярбоўкай агентуры. Да вайны служыў у Савецкай Арміі. Прывітанне. Маркаў».

**З Масквы — Маркаву.**

«Чакаем Русакова. Адносна Андросава пакуль атрымалі наступныя даныя: год нараджэння — 1911, ураджэнец горада Кромы Курскай вобласці, вучыўся ў Курскім ваенным вучылішчы, затым служыў у арміі. У 1939 годзе закончыў курсы ўдасканалення камандзіраў саставу і працаваў у штабе Ленінградскай ваеннай акругі, адтуль у 1940 годзе быў пераведзены ў Прыбалтыйскую акругу. Са ўсіх гэтых месц, выключаючы Прыбалтыку, водзывы станоўчыя. У штабе Прыбалтыйскай акругі, па здабытых даных, Андросаў працаваў да са-

27

май вайны. За згубу сакрэтнага штабнога дакумента ён прыкладна ў маі 1941 года быў выключаны з партыі, паніжаны ў званні і звольнены ў рэзерв. Зроблены меры для атрымання дадатковых даных і праверкі гэтых. Нельга не апасацца, што ў вас можа аказацца зусім іншы чалавек, існуючы па версіі і дакументах Андросава. Прывітанне. Старкоў».

**З Масквы — Маркаву.**

«Дадаткова па Андросаву. Мы адшукалі падпалкоўніка Маслава — сакратара партыйнай арганізацыі, дзе разбіралася справа Андросава. Ён лічыць, што ў згубе дакумента Андросаў непасрэдна не вінаваты, але па незразумелых матывах або з няправільнага пачуцця сяброўства, жадаючы выгарадзіць іншых, ён усю віну ўзяў на сябе і пры гэтым вёў сябе задзірліва, што садзейнічала прыняццю крутога рашэння. Пасля звальнення ў рэзерв шмат піў, а перад самай вайной захварэў. Жыў ён у Рызе адзін, сям'і ў яго няма. Дапускаецца магчымасць, што ў мітусні эвакуацыі аб ім, хворым, забылі. Пры арыентацыі Рудзіна ўсё гэта надзвычай важна. Як можна найдакладней распрацуйце з Рудзіным варыянты яго гутаркі з Андро-

(Працяг на стар. 4)

28

**ВЕСТКІ з БССР**

# ДАКУМЕНТЫ ДАЛЁКАГА МІНУЛАГА

У архівах і аддзелах рукапісаў раду бібліятэк Польскай Народнай Рэспублікі захоўваюцца каштоўныя дакументы, якія адносяцца да гісторыі Беларусі эпохі феадалізма. Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР кандыдат гістарычных навук В. І. Мялешка, які нядаўна пабываў у Польшчы, пазнаёміўся з дакументамі, што захоўваюцца ў архівах Варшавы, Кракава, Познані і Курніка.

Вучоны выявіў матэрыялы, якія асвятляюць развіццё сельскай і гарадской гаспадаркі, становішча сялянскіх мас і гарадскога насельніцтва. Яны даюць уяўленне аб маёмасным стане, сацыяльным прыгнечанні бедната магнатамі і шляхтай у XVI — XVIII стагоддзях.

Асабліва каштоўныя інвентары феадальных уладанняў. Яны запаўняюць прагал у гістарычнай літаратуры аб усходняй частцы Беларусі ў аграрнай галіне. Інвентары маюць багаты матэрыял аб сялянскай гаспадарцы і культурах, што вырошчваліся тады, памерах пасеваў і іх ураджайнасці, ліку насельніцтва і развіцці таварагрошовых адносін. Больш поўна прадстаўлены звесткі аб Шклоўскім, Стаўбцоўскім, Валожынскім графствах і Копыскай вобласці.

Старажытныя дакументы захоўваюць многа цікавых дадзеных аб эканоміцы беларускіх гарадоў і мястэчак — Слуцка, Ваўкавыска, Нясвіжа, Копысі, Магілёва, Барані, Стоўбцаў. З іх можна даведацца пра сацыяльны склад насельніцтва, стан рамёстваў і гандаль. Выяўленыя матэрыялы праліваюць некаторае святло і на стан асветы ў Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў.

Даследвальнікам выбрана для мікрафільмавання каля 260 спраў, прыкладна, — 25 тысяч старонак. Польскія навуковыя ўстановы прадстаўляюць мікрафільмы з гэтых дакументаў у распараджэнне вучоных Беларусі.

**С. Ратан**

# ПРЭЗІДЭНЦКІЯ МАРЫ І РЭЧАІСНАСЦЬ





Дэ Голь марыць аб уласнай нуклеарнай сіле для французскай арміі. Палітычную будучыню Францыі ён бачыць у гонцы нуклеарнага ўзбраення. Яму моцна не падабаецца Маскоўскі дагавор аб спыненні ядзерных выпрабаванняў у паветры, вадзе і касмічнай прасторы.

Аднак гэта толькі мары рослага прэзідэнта дэ Голя. Французская армія (як бачым на здымках) вымушана задаволіцца амерыканскімі атамнымі ракетамі і самалётамі, якія знаходзяцца пад непасрэдным кантролем амерыканскіх афіцэраў. Словам, згодна з пагаворкаю — маеш, не маеш?! Зрэшты, па праўдзе кажучы, радавому салдату яны так патрэбны, як балячка на спіне... (ся)






...што існуе заканамернасць паміж вагой жывёлы і яе сардэчным рытмам Так, сэрца слана робіць 46 удараў у мінуту, а сэрца маленькай птушкі-маскоўкі паспявае за гэты ж час скараціцца 1.200 разоў.

**Не думайце, што вы выхоўваеце дзіця толькі тады, калі з ім гутарыце ці павучаючы яго... Вы выхоўваеце яго ў кожны момант вашага жыцця.**

Антон Макарэнка (1888—1939) — выдатны савецкі педагог.

# Тытунь... без нікатыну

**Кожная папяроса скарачае жыццё. Нікатын з пачка папярос можа забіць качя. Усё гэта вядома: у тытуню ёсць яд — нікатын, які прыносіць шкоду. Пачалі прымяняць пры вырабе папярос і сігарэт антынікатынныя пракладкі, фільтры і іншыя бар'еры, эфект ад якіх усё ж няпоўны.**

**Добра было б вырасціць тытунь без нікатына! Фантазія курыльшчыка?.. Аказваецца, не. У Інстытуце раслінаводства Акадэміі сельскагаспадарчых навук Балгарыі такі гатунак выведзены шляхам прывіўкі да дурмана высокіх гатункаў тытуню. Атрыманы гібрыд валодае ўсімі якасцямі лепшых марак тытуню і не ўтрымлівае нікатыну. Яго месца замяніў атрапін (0,10—0,12%), унаследаваны ад дурмана (як вядома, у карэннях дурмана ўтрымліваецца атрапін). «Атратытунь» мае высокія лекавыя якасці ў барацьбе з астмай, язвай страўніка, павышаным крывяным ціскам і пры сардэчных захворваннях.**

# ЛЁД І КЛІМАТ

Істотная частка ўсяго наяўнага на зямлі льду знаходзіцца ў Сусветным акіяне. Сярэдні гадавы аб'ём марскіх ільдоў Сусветнага акіяна складае каля 40 тысяч кубічных кіламетраў. Такой колькасцю льду можна акружыць зямны шар уздоўж экватара, прычым шырыня і таўшчыня «пояса» будзе прыкладна адзін кіламетр. Калі ж увесь лёд выцягнуць на сушу і размеркаваць раўнамерным слоем, ён утворыць корку таўшчынёй у некалькі дзесяткаў сантыметраў. У Паўднёвым паўшар'і ўтвараецца і растае льдоў значна больш, чым у Паўночным, а поўная змена льдоў Сусветнага акіяна адбываецца прыкладна за адзінаццаць гадоў.

Нават калі растапіць увесь лёд мораў і акіянаў, то праз 6—7 гадоў без дадатковага ўздзеяння марскія льды Сусветнага акіяна адновяцца ў першапачатковым выглядзе і істотных змен у клімаце Зямлі не адбудзецца.



Від з борта самалёта Лядовага патруля на халодныя горы Грэнландыі. Унізе воды Атлантычнага акіяна ўсеяны велізарнымі крыгамі — айсбергамі (два асабліва вялікія айсбергі плывуць адзін за другім).

Самалёты паведамляюць караблі аб «курсе» айсбергаў, каб пазбегнуць такім чынам катастрофы.

(ся)

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ДВАЦЦАЦЬ ГОД У ДЖУНГЛЯХ АМАЗОНКІ

1942 год. Свет ахоплены полымем вайны. Японцы заваявалі Паўднёва - Усходнюю Азію і захапілі галоўныя раёны здабычы каўчуку. Без яго амерыканская армія задыхаецца. Вочы прамыслоўцаў павярнуліся на бразільскія джунглі. Вырашана паспрабаваць асвоіць гэтыя велізарныя каўчуковыя джунглі ў нізінах Амазонкі. У паразуменні з бразільскімі ўладамі пачаўся набор рабочых у «каўчуковую армію». Тысячы людзей, звабленых абяцанкамі агентаў, з'явіліся на вярбовачных пунктах. Сярод іх знайшоўся і семнаццацігадовы Хосе Мело.

Праз тры месяцы баркі з «каўчуковай арміяй» прыбылі ў Манаос. Разам сорак пяць тысяч асоб. Усіх падзялілі на атрады і на катэрах адправілі на плантацыі. Так Хосе Мело апынуўся ў лагеры №122. Праца пачыналася тут надоўга перад світаннем. Глыбокай ноччу выходзілі з лагера, каб паспець зрабіць нарэзы на дрэвах і прымацаваць да іх чаркі для збору вадкага каўчуку. Да кожнага работніка належыла 150 дрэў. Пакуль падчэпіцца апошняя чарка, першая — ужо поўная. Час брацца за збор чарак. Дзесяць мінут на абед — і зноў за работу. Вечарам сабраны каўчук трэба гатаваць на агні, што цягнулася нярэдка аж да паўночы. Гатовы каўчук ляпілі ў вялікі шар. Калі яго вага даходзіла да васьмідзесяці кілаграмаў, кацілі яго на далёкую базу. На гэта трацілі тры — чатыры дні...

Узамен за каўчуковы шар атрымоўвалі прадукты, якіх хапала якраз да таго дня, калі быў гатовы новы шар. Дзень на базе — і зноў у дарогу. Ні адной секунды затрымкі. Спознішся ў лагер, чакае цябе голад. Рабочыя масава паміралі ад трапічнай ліхарадкі.

Прайшло многа часу...

Хосе Мело ўспамінае: «Ніхто не ведаў, што вайна, якую мы нібы памагалі выйграць, даўно закончылася. Я амаль забыў, як я трапіў у джунглі; памяць мая настолькі аслабела, што я не мог нават успомніць таго, што я рабіў учора. Але вось аднойчы я падлічыў, што знаходжуся ў джунглях амаль шэсць год. І я цвёрда пастанавіў вярнуцца да загубленага жыцця. У лагеры паўзвар'яцелыя рабочыя расказвалі мне гісторыю людзей, якія спрабавалі ўцячы. Іх лавілі і расстрэльвалі. Арганізатары добра ведалі, што ніхто і ніколі не павінен даведацца пра іх зверствы: найбліжэйшы заселены пункт знаходзіўся ў 1.300 мілях ад лагера.

Усё ж я пастанавіў уцякаць...

Я ўжо раздабыў сабе компас, некалькі ляпёшак, кавалак вэнджанага мяса, крыху кавы і кары дрэва кока, якім індзейцы лечаць ліхарадку. Аднойчы раніцаю я пачаў шлях, які заняў у мяне трынаццаць год!

Чалавек без компаса ніколі не выберацца з джунгляў Амазонкі. Ён будзе цэлымі месяцамі хадзіць вялікім кругам аж пакуль, аслаблены, не станецца здабычаю звяроў. Лес поўны драпежнікаў, ядавітых змей, аднак найбольш небяспечна сустрэцца з «каралеваю» бразільскіх джунгляў — гіганцкай воднай змяёю — анакондай. Але самае страшнае ў джунглях — гэта ніколі не сціхаючы шум. Дзікі рык звяроў, галасы птушак, шум дрэў зліваюцца ў вар'яцкі хор. Ад гэткага шуму чалавек зыходзіць з розуму, траціць пачуццё арыентацыі, уцякае на верхавіны дрэў ад кашмара. Ад усяго гэтага ў мяне быў адзіны ратунак: я перастаў перайманца сваім лёсам. Я настолькі аслабеў, што мне было ўжо ўсё роўна — ці перажыву я, ці памру. Смерць выдавалася выбаўленнем ад усіх жахаў...

Праз некаторы час я жыў з індзейцамі племені таморы. Яны **першы раз** бачылі белага чалавека, але прынялі мяне сардэчна, навучылі паляваць, лавіць рыбу. Але я ні на секунду не пераставаў думаць аб тым, што мне зноў пара ісці. Племя праводзіла мяне да ўскраіны пасёлка.

Кажуць, што адна дзесятая джунгляў Амазонкі заўжды гарыць. Здарылася так, што я аказаўся іменна ў гэтай частцы. Была страшэнная гарачыня, гудзелі палыхаючыя дрэвы, дзіка раўлі звяры. Джунглі гарэлі. Я пабег да ракі. Уніз па рацэ плыў дзіўны плыт — яго пасажырамі былі дзікія звяры. Мае валасы і барада пачалі ўжо дымець, і я паплыў да плыта. Калі я агледзеў сваіх суседзяў, я пахаладзеў. Вялізная анаконда абвівала бярвенні плыта. Але яна нават не глядзела на мяне, у яе няморгаючых вачах адбіваліся язычкі полымя. Побач мяне ляжаў дрыжачы ад страху ягуар. Звяры ратаваліся ад пажару. Некалькі дзён гэты незвычайны каўчэг прабіраўся скрозь калідор палыхаючых джунгляў. Цераз некаторы час дым пачаў радзець, і я, вырашыўшы больш не рызыкаваць лёсам, пакінуў сваіх страшных суседзяў. Нага, якую скалечыў я ў час пажару, балела так моцна, што я стаў шукаць індзейцаў. У іх я выпрасіў вельмі моцны сродак. Яны далі мне яго, аднак папрасілі што-небудзь у абмен. Але адзінае, што я мог ім даць, быў мой компас. Калі боль крыху прыціх, я ізноў выбраўся ў дарогу. Аднак ісці без компаса было немагчыма. Каб вярнуць компас, мне трэба было яго на што-небудзь абмяняць. Я пачаў працаваць у індзейцаў. Некалькі месяцаў я няньчыў іх дзяцей, рабіў простыя лякарствы, лячыў хворых малышоў. Памалу яны пачалі давяраць мне і хутка, аддаўшы компас, які лічылі яны забаўнай цацкаю, вырашылі адпусціць мяне. У знак удзячнасці за гэта, што я зрабіў для іх, яны пабудавалі мне лодку, забяспечылі ядою і далі праваднікa. Некалькі месяцаў я плыў ракою, прыпыняўся толькі для таго, каб паляваць і спаць. Я сустракаў многія плямёны індзейцаў, але ніхто з іх не чуў пра «каўчуковую армію».

І вось я нарэшце дабраўся да малога мястэчка Сан-Феліче. Толькі там я даведаўся, што вайна закончылася 17 год таму назад. Ішоў 1962 год. Я быў пахаваны ў бразільскіх джунглях цэлых дваццаць год!..

(ся)

P.S. У той час, пакуль «каўчуковую армію» давозілі на плантацыі ў джунглях Амазонкі, у Злучаных Штатах Амерыкі пачалася масавая прадукцыя штучнага каўчуку. Зацікаўленне афіцыйных улад бразільскім каўчуком паменшылася і незадоўга ўся «каўчуковая армія» аказалася поўнасцю ў руках дзялкоў — бізнесменаў, якія на ашуканстве рабочых збілі каласальны капітал.

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЕ БУДЗЬМА СКУПЫМІ

Прыходзяць да нас настаўнікі або іншыя вясковыя актывісты. «Адлажыце, калі ласка, штонебудзь, — гавораць, — на грамадскі фонд будовы школ». Адны ахвотна адлічваюць залатоўкі, другія — не. І вось тым другім падаю пад разваrу: з нашых залатовак ў Беластоцкім ваяводстве ўжо сабралася сума звыш 156 мільёнаў злотых. Дзякуючы гэтым мільёнам вырасла на Беласточчыне 25 новенькіх прыгожых школ і 8 зараз ужо будуецца. Гэта ўсё толькі і выключна за залатоўкі, якія мы адкладаем на грамадскі фонд будовы школ. Не будзьма тады скупымі! На працягу бліжэйшых 2-ух год нашыя залатоўкі дазволяць пабудаваць у Беластоцкім ваяводстве 41 школу. Будуць яны таксама помнікамі нашай ахвярнасці.

(вр)

## У гасцях у Сакольскім ліцэі

У сувязі з Днямі Савецкай Культуры і 46-ай гадавінай Вялікага Кастрычніка на Беласточчыне прабывалі прадстаўнікі савецкага пасольства ў Польшчы Аляксей Шлеенка і Васіль Абгароў.

31 кастрычніка Аляксей Шлеенка спаткаўся з моладдзю агульнаадукацыйнага ліцэя ў Саколцы. На спатканні прысутнічалі сакратар Ваяводскага праўлення ТППР т. Санюковіч І сакратар ПК ПАРП т. Дзянісюк, старшыня прэзідыума ПРН т. Унучко і старшыня павятовага аддзела БГКТ у Саколцы т. Рафаловіч.

Пасля вучнёўскага прывітання тав. Шлеенка выступіў з прамовай. Ён гаварыў аб дасягненнях савецкага народа, аб будове камунізма ў СССР, аб савецка - польскай дружбе. Затым госцю давялося адказваць на шматлікія пытанні моладзі.

**Генрых Піліпайць**
Саколка

## Каб так было ўсюды

У раёне Міхалоўскай малачарні ані адна злеўня не карыстаецца такой папулярнасцю, як злеўня малака ў вёсцы Багнюкі. Чаму? Таму што чысціня там і парадак, што вельмі добра вядзецца ўся дакументацыя продажу сялянамі малака. Апрача таго, адзіны працаўнік гэтай злеўні Люба Бойка працуе сумленна і ветліва адносіцца да людзей. Вось менавіта за гэта жыхары Багнюкоў паважаюць і шануюць Любу Бойка.

(МХ)

## Дзе моладзь?

У Мілейчыцах існуюць усе ўмовы для таго, каб шырока разгарнуць культурную работу. Ёсць тут Дом культуры са святліцай, бібліятэка з багатым наборам польскіх і беларускіх кніжак. Ёсць шмат моладзі, якая павінна быць авангардам у грамадска - культурным жыцці мястэчка. Павінна быць авангардам, але не з'яўляецца ім!

Чаму ж моладзь не арганізуе нічога карыснага? Чаму ў апошні час ні разу не было працы грамадскім чынам, ніводнай пастаноўкі п'есы, ніводнай культурнай вечарыны?

Галоўнай прычынай гэтай адсталасці з'яўляецца тое, што клуб - кавярня, дзе павінна канцэнтравацца культурнае жыццё, пераўтварыўся ў піяцкую кнайпу. А там, дзе працвітае п'янства і хуліганства, нельга гаварыць аб карыснай і культурнай працы.

Жыхары мястэчка чакаюць ад моладзі актыўнай дзейнасці і добрага прыкладу ў развіцці культурнага і грамадскага жыцця Мілейчыц.

**Эрка**

## ГРАШОВЫ ЎКОЛ СЯЛЯНАМ

(Працяг са стар. 4)

Гэты шчодры грашовы ўкол несумненна павінен садзейнічаць хуткаму аздараўленню заняпалых гаспадарак.

Дапамога дзяржавы сялянам не абмяжоўваецца толькі да грашовых уколаў. Зрэшты, не заўсёды грашовыя ўколы неабходныя селяніну для аздараўлення яго гаспадаркі. Часам дастаткова менш балючае лячэнне, напрыклад, на нейкі тэрмін, скажам, на 3 гады, адлажыць сплату дзяржаўных абавязкаў. На працягу гэтых трох гадоў гаспадар зможа ўласнымі сродкамі так узмоцніць свае сілы, што не толькі сплаціць даўгі, але хопіць яму яшчэ на выдатнае гаспадараванне і сістэматычнае выконванне сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

Такога роду дапамогу ў Гайнаўскім павеце атрымала 421 гаспадар, а ў Бельскім — 410 гаспадароў.

Аднак хто сам лячыцца не хоча, таму ніякія лякарствы не дапамогуць. Важна тады, каб дзяржаўнай дапамогай карысталіся толькі тыя сяляне, якія сапраўды праяўляюць шчырае жаданне вясці сваю гаспадарку на высокім узроўню, якія завядуць трывалае сяброўства з навейшымі метадамі гаспадаравання.

**В. Рудчык**



## Дом продажу з перасылкай

Ёсць такі дом. У Лодзі. Ведаюць аб ім нашыя вясковыя настаўнікі (асабліва настаўніцы). Хопіць напісаць у «Дом» чаго вы жадаеце, а ў нядоўгім часе атрымаеце з Лодзі пакет з патрэбнымі вам рэчамі. Дом прысылае сваім клієнтам прыгожыя ілюстраваныя каталогі са спісам рэчаў, якія знаходзяцца на складзе ў «Доме».

**НА ЗДЫМКУ: настаўнікі пачатковай школы ў Рыбалах атрымалі з Лодзі прыгожыя «казачкі».**
фота **Паўлючук**

## НОВЫ НАБОР У СПР

У школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Ляўкове адбыўся новы набор вучняў. Прыйшлі вучыцца хлопцы і дзяўчаты з суседніх вёсак: Ахрымаў, Капітаншчыны, Ляшукоў, Міхнаўкі. Сельскагаспадарчыя прадметы будзе выкладаць затэхнік Ян Харытанюк, а агульнаадукацыйныя — настаўнікі школы ў Ляўкове.

Добрых поспехаў у навуцы і працы!

**Віктар Харкевіч**

## Добры каваль

Цяжкая праца каваля. Але каваль Росяк любіць сваю працу і ў кузні праводзіць цэлыя дні. Асабліва добра і хутка ён куе коней. Хоць у Міхалове і аколіцы шмат іншых кавалёў, аднак ён мае кліентаў з усяго наваколля. Кожную працу выконвае старанна і сумленна.

Людзі дзякуюць добраму кавалю і жадаюць яму поспехаў у працы.

**Янка Амброжэй**

## Футбольная сустрэча

У нядзелю, 3 лістапада, адбылася футбольная сустрэча паміж прафесіянальнай школай механізацыі сельскай гаспадаркі і агульнаадукацыйным ліцэем у Міхалове.

У гэтай сустрэчы ўпершыню выйграла каманда ЗСМР. Каманда ліцэя яшчэ не паспела падрыхтаваць добрай замены на месца ігракоў, якія ў мінулым навучальным годзе скончылі школу.

**Аркадзь Латоўскі**
Кабылянка




Дарагое **Сэрцайка!**

Я таксама вырашыў напісаць да цябе аб нашай моладзі. У нас нямнога моладзі, хоць вёска не малая. Калісьці таксама было ў вёсцы сумна і большасць з маладых, пераважна дзяўчат, пайшло ў горад шукаць працы. Але цяпер весела ў нашай вёсцы. Прызнаюся, я сам узяўся за арганізацыю культурнага жыцця. Прыйшла ў дапамогу настаўніца нашай школы. А пачалося ўсё так. Да нас у мінулую восень прыехаў з выступленнямі мастацкі гуртох з суседняй вёскі. Выступіў у школе, бо святліцы не маем, але ўжо будуем і хутка святліца будзе гатова. Усе дапаможныя работы выконваем грамадскім чынам. І вось пасля выступлення гэтага гуртка адбылася забава. Нам было сорамна што мы нічога не ўмеем самі паказаць, а адначасова вельмі весела бавіліся. І зараз у нядзелю я пры дапамозе настаўніцы склікаў у школу моладзь і мы вырашылі арганізаваць мастацкі самадзейны гурток. Кіраўніцтва ўзяла наша настаўніца. Яна і падабрала рэпертуар. Рэпетыцыі пачаліся ў школе, а нават у хатах нашых сяброў. Усё пайшло добра, знайшлося многа ахвотных дзяўчат і хлопцаў, а нават у нашым гуртку маем адну старэйшую жанчыну. Вельмі добра грае. Мы пераканаліся, што мелі ахвоту, але не было арганізатара, які б зрабіў пачатак. На другі дзень Калядных свят далі першае выступленне ў сваёй вёсцы. Выступленне ўдалося. Пазней пры мастацкім гуртку арганізавалі таксама танцавальны гурток пад кіраўніцтвам нашай бібліятэкаркі. І вось мы ўжо пабывалі ў суседніх вёсках не раз са сваімі канцэртамі. Цяпер калектыў наш моцны і мы маем пэўныя дасягненні. Ужо моладзь наша не сумуе, а мае заняткі, ды яшчэ цікавыя заняткі. І здаволены гэтым моладзь і старэйшыя, якія час ад часу маюць прыемную разрыўку.

І таму раіў бы Зіне не ўцякаць у горад, а ўзяцца за работу. Думаю, што мой ліст можа хоць трохі дапаможа моладзі з Зінінай вёскі ў арганізацыі культурнага жыцця.

**Янка**
з вёскі Т.
Беластоцкага павета.

Дзякуем табе, Янка. Не сумняваюся, што дапаможа. А можа яшчэ хто-небудзь напіша нам аб жыцці сваёй моладзі? Чакаем.

**СЭРЦАЙКА**

# КІНО

**Праграма на 25.XI. — 1.XII. 1963 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Ludobójcy" (szwedzki), 26—28 XI. „Kozara" (jugosł.), 29 XI. —1.XII.

**Кляшчэлі**
„Poślubny rejs" (angl.), 26—28.XI. „Smarkula" (polski), 29. XI.—1.XII.

**Навасады**
„Księga dżungli" (angielski), 31.XI.—1.XII.

**Нараў**
„Na białym szlaku" (polski), 27.XI.—1.XII.

**Нараўка**
„Czerwone berety" (polski), 27.XI.—1.XII.

**Чаромуха**
„Nasz kochany potwór" (rumuński), 26—28.XI. „Kozara" (jugosł.), 29.XI.—1.XII.

**Чыжы**
„Champion" (USA), 27.XI.—1. XII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Lata bez marzeń" (węgierski), 27.XI.—1.XII.

**Бранск**
„Spieniony nurt" (węgierski), 26—28.XI. „Sprawa Niny B" (franc.), 29.XI.—1.XII.

**Гродзіск**
„Głos z tamtego świata" (polski), 27.XI.—1.XII.

**Орля**
„Skradziono bombę" (rumuński), 27.XI.—1.XII.

**Райск**
„Na scenach świata" (rumuński), 27.XI.—1.XII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Po latach" (radz.), 26—28.XI. „Przystanek — komisariat" (węgierski), 29.XI—1.XII.

**Міхалова**
„Siedem niańiek" (radz.), 26—28.XI. „Jak być kochaną" (polski), 29.XI.—1.XII.

**Супрасль**
„Przygody Krosza" (radz.), 26—28.XI. „Diabelska przepaść" (czeski), 29.XI.—1.XII.

**Чорна Беластоцкая**
„Niezastąpiony kamerdyner" (angl.), 26.—28.XI. „Pan Marszałek i ja" (NRF), 29.XI.—1.XII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Przystanek — komisariat" (węgierski), 26—28.XI. „Jak być kochaną" (polski), 29.XI.—1.XII.

**Мілейчыцы**
„Trzynastego nocą" (bułg.), 26—28.XI. „Mecz w piekle" (węgierski), 29.XI.—1.XII.

**Нурэц**
„Po latach" (radz.), 26—28.XI. „Król Maciuś I" (polski), 29.XI. —1.XII.

**Сідра**
„Noc poślubna" (polski), 26—28.XI. „Gangsterzy i filantropi" (polski), 29.XI—1.XII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Europolis" (czeski), 26—28.XI. „Trzynastego nocą" (bułg.), 29. XI.—1.XII.

**Сухаволя**
„Sztubak" (angl.), 26—28.XI. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 29.XI.—1.XII.

**Шудзялава**
„Spóźnieni przechodnie" (polski), 27.XI.—1.XII.

**Янаў**
„Pan Marszałek i ja" (NRF), 26—28.XI. „Noc szpiegów" (francuski), 29.XI.—1.XII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Zdarzyło się to w Rzymie" (włoski), 30.XI.—1.XII.

**Новы Двор**
„Wielka, większa i największa" (polski), 30.XI.—1.XII.

**Ружаны Сток**
„W ślepej uliczce" (włoski), 26.—27.XI. „Człowiek z planety Ziemia" (radz.), 28—29.XI. „Grzesznicy bez winy" (radz.), 30.XI.—1.XII.



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 zł. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $, w Europie 6 $ — w USA.
Nakład 5458 BRK A3

 

## КУРʼЕЗЫ

### Прастакі за граніцай

Нядаўна двое рымскіх аферыстаў прадалі багатаму амерыканскаму турысту... руіны Калізея. Прывыкшы да таго, што на сваёй радзіме ён можа ўсё купіць, амерыканец заплаціў уяўным уласнікам Калізея дзвесце тысяч лір у якасці авансу за права пабудаваць у Калізеі рэстаран і апроч таго збіраць плату з турыстаў, якія аглядаюць старажытныя руіны. Атрымаўшы грошы, «уласнікі Калізея» зніклі. Руіны Калізея ўжо аднойчы былі «прададзены» ў чэрвені 1944 года аднаму з афіцэраў амерыканскай Пятай арміі.

«Дэйлі ўоркер».

ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ

## КУ ★ КА ★ РЭ ★ КУ!

Старому Пеўню дрэнны сон прысніўся,
Устрапянуўся ён і... з седала скуліўся,
Што моцы крыллямі залапатаў
І хрыпаватым басам закрычаў:
— Ку-ка-рэ-ку! Пажар, браточкі!
Ратуйся, хто куды-ы!
Стары і малады...
Бо застануцца толькі вугалёчкі!
А следам пеўнікі, як падгалоскі,
З двара у двор,
Ад вёскі і да вёскі...
Ну, карацей, гарыць сыр-бор!

✻

Хтось пусціць часам пагалоску,
А плеткарам і на руку —
Адразу закрычаць: — Ку-ка-рэ-ку!

### Песні па заяўках

Па просьбе Валі Амільянюк з Грэдалёў, Бельскага павета, Марыі Цар і Надзеі Парфенюк з Бельскага педліцэя, змяшчаем папулярную савецкую песню

## КИЕВСКИЙ ВАЛЬС

Слова А. Малышко — Музыка П. Майбороды
Перевод с украинского Г. Литвака




Ночи соловьиные,
Вешний шум дубров,
Долы поднепровья
Приснились мне вновь.

Припев:

Снова цветут каштаны,
Слышится плеск Днепра.
Молодость наша — (2 раза)
Ты счастья пора.

Льются песни юности
В киевских садах,
Друг мой, ты, я знаю,
Вернёшься сюда

Припев.

Стёжки и дороженьки
Все уходят вдаль.
Нежно мы любили,
И в сердце печаль.

Припев.

Нам бы в ночь весеннюю
Встретиться опять.
Тёплым звёздам киевским
Вечно бы сиять.

Припев:

Снова цветут каштаны,
Слышится плеск Днепра.
Молодость наша — (2 раза)
Ты счастья пора.






Без слоў

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

Каля маладых дзяўчат і ў старога дзеда бываюць маладыя думкі.

✻

Скупому і ад чужых грошай трасуцца рукі.

✻

Малы павучок робіць сабе дарогу, а вялікі Сцяпан лянуецца вылажыць сабе сцежачку.

✻

З квяцістых думак лаўровага вянка не сплецеш.

✻

Палымяны барацьбіт загарэўся ў гасподзе, ледзь адратавалі.




АПОШНІЯ СУМНЕННІ

### НЯЎРАДЖАЙНАЯ ЗЯМЛЯ

Гаспадар напісаў просьбу аб пагашэнні грунтовага падатку. Нейкага дня прыйшоў інструктар і застаў гаспадара пад цяністай грушай.

— Вы сцвярджаеце, што гэтая зямля няўраджайная?

— Так. Нічога на ёй не расце.

— Нічога? А каб пасадзіць бульбу?

— Ну, каб пасадзіць!..




Чарвяк ганарыўся тым, што на яго злавілі шчупака.

### ЦІКАВАСЦЬ

Жонка да мужа:

— Ад каго атрымаў гэты ліст?

— А чаму хочаш ведаць?

— Ну, вось і кажаш яшчэ, што гэта я цікаўлюся?

• • •

### ДЭМАГОГ

Дэмагог, гэта чалавек, які сам гойдае сваю лодку і адказвае, што навокал бушуе шторм.




Тое, што самаўпэўненыя людзі лічаць сваім моцным бокам, звычайна з'яўляецца іх слабым месцам.

### У ЦЫРКУ

Клоун на арэне глытае іголкі. З залы чуваць голас хлопчыка:

— А вы ж раней шпагі глыталі!

— Глытаў, а цяпер я на дыеце, — адказвае клоун.

### ЦІКАВАЯ КНІГА

Адзін аўтар па сваёй няўважлівасці паслаў свайму сябру ў другі раз адну і тую ж кнігу. Сябра яму адказаў:

— Твая другая кніга яшчэ цікавей за першую.

### НА ЭКЗАМЕНЕ

Настаўнік: — На якім току працуе трамвай?

Вучань: — Вядома, на пераменным. На пастаянным ён бы хадзіў толькі ў адзін бок.

### КАБ НЕ ПАВАЛІЦЦА

Маленькая Ніна ідзе па сходах з кубкам у руках.

— Асцярожна, Ніначка, не паваліся, — гаворыць ёй мама.

— Не, не павалюся — я ж за кубак трымаюся, — супакойвае яе дзяўчынка.



— Ну і ашчадныя гэтыя шатландцы!

## МАМАЧКА

Жанчына паспешліва падымалася на другі паверх.

— Ток, ток, ток! — звонка выстуквалі яе абцасікі, і гук гэты гулка бегаў па пустых класах, губляючыся дзесьці ў глыбіні школьнага калідора.

Адшукаўшы вачыма дырэктарскі кабінет, жанчына імкліва, без стуку, адчыніла дзверы.

Дырэктар быў не адзін. Побач з ім сядзеў завуч, які штосьці тлумачыў яму.

Не звяртаючы ўвагі на іх занятасць, жанчына падляцела да стала і з ходу атакавала кіраўнікоў школы.

— Хто можа мне растлумачыць, што гэта такое?! Чаму майго сына караюць за самы нязначны ўчынак, а выхоўваць не жадаюць? Ён жа добры хлопчык! Праўда, як і ўсе вельмі здольныя дзеці, ён крыху сваволіць...

— Дазвольце, дазвольце, — сказаў дырэктар. — А як...

— Не, ужо вы дазвольце! — абарвала яго жанчына. — Паколькі выклікалі, то дазвольце выказаць. Мы з мужам доўга маўчалі. Мы назіралі, як вы займаецеся з дзецьмі... Мы прыглядаліся, чаму вы іх вучыце, якімі метадамі выхоўваеце. Гэта ж ганьба — у наш касмічны час за самую нязначную правіннасць палохаць дзіця выключэннем са школы або выклікам бацькоў. Вы разумееце! Ганьба!

— Дазвольце, грамадзянка... — скарыстаўшы міжвольную паўзу, нарэшце, змог вымавіць слова дырэктар. — Можа і ганьба, але ў чым справа? Я зусім нічога не разумею... Вы, Павел Іванавіч, у курсе падзей? — звярнуўся ён да завуча.

— Не, Іван Міхайлавіч, гэту грамадзянку я бачу ўпершыню.

— Тады можа вы ўсё-такі растлумачыце, у чым справа? — звярнуўся дырэктар да жанчыны.

— Як у чым справа?! — зноў закіпаючы, як самавар, накінулася на дырэктара наведвальніца. — Вы мяне выклікаеце ў школу, патрабуеце аддаваць больш увагі выхаванню сына, а самі нічога не жадаеце рабіць!.. Здымаеце з сябе адказнасць.

— Даруйце, а як ваша прозвішча? — ледзь паспеў уставіць дырэктар.

— Маё?! У нас з сынам адно прозвішча!

І, выхапіўшы з сумачкі складзены ў чатыры столкі аркуш паперы, жанчына дэманстрацыйна кінула яго на стол.

Нахмурыўшыся, дырэктар моўчкі дастаў з бакавой кішэні акуляры, павольна, стрымліваючы сябе, надзеў іх на нос і разгарнуў паперу.

Праз хвіліну па ягоным твары прабегла ўсмешка. Ён працягнуў пісьмо завучу: «Пачытайце, Павел Іванавіч! Цікава!..»

Даўшы магчымасць свайму намесніку пазнаёміцца з дакументам, дырэктар узняў галаву і паглядзеў на расчырванелы ад злосці твар наведвальніцы.

— Так, вы кажаце праўду. Вас сапраўды выклікалі з прычыны дрэнных паводзін вашага сына, вучня восьмага класа... Але толькі сын ваш вучыцца ў другой школе...

МІКАЛАЙ ПРАЎДЗІН

 